

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№7 (ліпень), 2016

# Мяжа




**Дзень Незалежнасці ў Бярозе**

(старонка 12)

## ЗЬМЕСТ

## У Пінску кіраваць выбарчай камісіяй будуць асобы, што ўваходзяць у склад выбаркамаў апошнія гады

Старшынёй камісіі Пінскай гарадской выбарчай акругі №14 на сёлетніх парламенцкіх выбарах абраны Ігар Берасцень, якія займае пасаду начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай работы мясцовага гарвыканкама, а ў склад камісіі вылучаны ад грамадзян шляхам падачы заявы.

На выбарах прэзідэнта Беларусі ў 2015 годзе Берасцень быў намеснікам старшыні раённага выбаркаму, а сакратаром камісіі - і тады, і зараз – з'яўлялася загадчыца бібліятэкі гімназіі №3 Алена Данілавіч (вылучана ад Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі). Разам з гэтымі асобамі сталым сябрам усіх выбарчых камісій у Пінску на працягу апошніх гадоў застаецца вылучэнец ад грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане" Алег Астапчук, якога сёлета абралі намеснікам старшыні акруговага выбаркама.

Разам з тым, у выбарчай камісіі акругі №14 з'явілася і шмат новых асобаў у параўнанні з мінулымі выбарамі. Ад палітычных партый у камісію трапілі Міхаіл Раманцаў (вылучаны ад Беларускай партыі левых "Справядлівы свет") і Міхаіл Калеснікаў (прадстаўляе Камуністычную партыю Беларусі).

http://elections2016.spring96.org/be/news/83632

## Апазіцыянераў не ўключылі ў выбарчую камісію, бо іхная заяўка «згубілася» у аблвыканкаме

Выбарчая кампанія ў Беларусі толькі стартавала, а апаненты дзейснай улады ўжо вымушаныя ісці за справядлівасцю ў суд.

Пры фармаванні выбаркамаў Берасцейскай вобласці не былі ўлічаныя прапанаваныя кандыдатуры ад руху «За Свабоду», хаця дакументы з заяўкай прыйшлі своечасова.

22 чэрвеня рух «За Свабоду» выслаў заказным лістом у Берасцейскі аблвыканкам прапанову ўключыць у выбарчую камісію па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў двух сваіх актывістаў – Сяргея Вакуленка і Віталя Чмяля. Але ліст… «згубіўся ў агульным аддзеле аблвыканкаму». Прынамсі так сказалі актывістам.

У выніку ліст апынуўся ў працоўнай групе, што займалася адборам кандыдатаў для працы ў выбарчай камісіі, толькі 27 чэрвеня.

У той жа дзень на сумесным паседжанні Берасцейскага аблвыканкаму і прэзідыума абласнога савету па фармаванні выбарчых камісіяў кандыдатуры Вакуленкі ды Чмяля не былі прапанаваныя і разгледжаныя.

29 чэрвеня рух «За Свабоду» звярнуўся ў суд і запатрабаваў адмяніць вынікі фармавання камісіяў. Сябры руху мяркуюць, што такі адбор у камісіі «прыціскае грамадзянскія правы» сябраў арганізацыі. Але ўжо 2 ліпеня Берасцейскі абласны суд вынес адмоўнае рашэнне. Пры гэтым яно ўступіла ў сілу неадкладна, яго нельга абскарджваць і аспрэчваць у беларускіх судах.

Цяпер актывісты руху «За свабоду» плануюць звярнуцца ў міжнародныя інстанцыі.

Падчас мінулай прэзідэнцкай кампаніі актывіста гэтай жа арганізацыі Дзяніса Турчаняка не ўключылі ў выбарчую камісію. Ён таксама звярнуўся ў суд, і таксама атрымаў там адмову. Цяпер сітуацыя паўтарылася, толькі з іншымі сябрамі руху «За свабоду».

«Думаю, што працоўныя групы, якія абіралі кандыдатаў у камісіі, былі сфармаваныя з прыхільнікаў дзеючай улады. У гэтых групах не было ніводнага апазіцыянера. Як туды можна трапіць таксама невядома. У выніку нашых актывістаў у камісіях не аказалася. Суд нам таксама ў гэтай магчымасці адмовіў. Зыходзячы з таго, што мы пабачылі, можна меркаваць, што выбары не будуць адкрытымі і справядлівымі», – так Дзяніс Турчаняк пракаментаваў сітуацыю Belsat.eu.

http://belsat.eu/news/apazitsyyanerau-ne-uklyuchyli-u-vybarchuyu-kamisiyu-bo-ihnaya-zayauka-zgubilasya-u-ablvykankame/

## Прадстаўнікі дэмсіл Берасця збіраюць подпісы

Пікеты ў цэнтры горада і метад «ад дзвярэй да дзярэй». Берасцейскія прадстаўнікі апазіцыі збіраюць подпісы за вылучэнне сваіх прадстаўнікоў у кандыдаты ў дэпутаты. У Берасці зборшчыкаў подпісаў найчасцей можна сустрэць на пешаходнай вуліцы Савецкай – паведаміла ў нашым эфіры кіраўнік гарадской структуры партыі

БСДП Грамада Ганна Канюс:

Мы прапанавалі мінакам ставіць подпісы за нашых кандыдатаў. Яны ставілі, расказвалі пра праблемы, якія ёсць у Берасці, пра тое, што насамрэч, трэба штосьці мяняць у сённяшнім парламенце.

Сабраць трэба 1000 подпісаў для вылучэння ў Палату прадстаўнікоў. Акрамя вулічных пікетаў, перакананая Ганна Канюс, патэнцыйным кандыдатам ў парламент яшчэ варта і шмат пахадзіць.

– Нашы валанцёры пачалі збіраць подпісы па кватэрах.

Парламенцкія выбары пройдуць 11 верасня. У Беларусі стартаваў другі этап выбарчай кампаніі – рэгістрацыя ініцыятыўных груп і збор подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты.

http://www.racyja.com/palityka/pradstauniki-demsil-berastsya-zbirayuts/

## Алесь Мех зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу



*Алесь Мех з кіраўніком сваёй ініцыятыўнай групы Васілём Андрасюком.*

У Кобрынскай акруговай выбарчай камісіі па выбарах у Палату Прадстаўнікоў пакуль зарэстравана толькі адна ініцыятыўная група – Алеся Меха. Для падачы дакументаў на яе рэгістрацыю яму спатрэбіліся 2 дні. „Акруговай камісіі спатрэбілася 5 дзён для праверкі ініцыятыўнай групы з 14-ці чалавек," – кажа Алесь Мех.

– Камісія зарэгістравала маю ініцыятыўную групу. Сказалі, што правяралі кожны пашпарт, кожнага чалавека праз міграцыйную службу. Толькі сёння ім прыйшоў адказ, што гэтыя ўсе асобы

праведраныя і што ўсе яны з’яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Алесь Мех напярэдадні выказаў жаданне, каб паседжанне камісіі вялося на беларускай мове. Да яго жадання прыслухаліся. Але толькі 5 першых хвілін старшыня камісіі, дырэктар сярэдняй школы №3 Кобрына Аляксандр Лесік гаварыў па-беларуску. Потым, спаслаўшыся на закон “Аб дзвюхмоўі”, перайшоў на расейскую.

http://www.racyja.com/palityka/ales-mekh-zaregistravau-svayu-initsyyat/

## Міліцыя забрала кампутар і тэлефон берасьцейскага блогера, які сабраўся ў дэпутаты



Да прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты парлямэнту Сяргея Пятрухіна, які балятуецца ў Берасьці, прыйшлі міліцыянты і забралі яго мабільны тэлефон і ноўтбук.

Спадар Пятрухін так пракамэнтаваў Свабодзе інцыдэнт зь міліцыянтамі:

«Міліцыянты прыйшлі ў сувязі з камэнтаром, які быццам бы я пакінуў датычна аднаго буйнога чыноўніка Камітэту дзяржаўнага кантролю. Я рабіў рэпартаж пра яго тры месяцы таму, дзе распавядалася, што былы старшыня Берасьцейскага гарвыканкаму незаконна перадаў яму надзел у цэнтры гораду. Паводле майго рэпартажу была распачатая крымінальная справа».

Сяргей Пятрухін распавёў, што ў часе візыту міліцыянтаў яго зьдзівіла патрабаваньне аддаць мабільны тэлефон, які ён набыў тыдзень таму і мае аб гэтым адпаведныя дакумэнты. Спадар не разумее, якое дачыненьне можа мець гэты тэлефон да справы трохмесячнай даўніны.

«Я сёньня пачаў зьбіраць подпісы, у мяне ў кампутары ўся мая база кантактаў, усе мае напрацоўкі», — кажа Сяргей Пятрухін.

Пятрухін не выключае, што аднаўленьне справы аб камэнтары на сайце зьвязанае з актывізацыяй яго выбарчай кампаніі.

Вядомы берасьцейскі блогер Сяргей Пятрухін займаецца журналісцкімі расьсьледаваньнямі на тэму карупцыі чыноўнікаў і сілавікоў. На сваім youtube-канале «Народны рэпарцёр» ён выкладае відэасюжэты на праблемныя тэмы, зьвязаныя са злоўжываньнямі чыноўнікаў. Кожнае расьсьледаваньне журналіста зьбірае тысячы праглядаў у сеціве.

Адзін зь нядаўніх фільмаў Сяргея Пятрухіна «Как заработать 50 базовых» распавядаў аб вылучэньні гарвыканкамам надзелу зямлі чыноўніку дзяржкантролю.

У сваім расьсьледаваньні Сяргей Пятрухін выказаў меркаваньне, што былы старшыня гарвыканкаму Аляксандар Палышэнкоў, які садзейнічаў выдзяленьню надзелу чыноўніку, «нанёс дзяржаве матэрыяльныя страты ў асабліва буйным памеры».

Ужо пасьля зьяўленьня матэрыялу Пятрухіна ў сеціве, у траўні да яго прыходзілі міліцыянты з прэтэнзіямі да камэнтару, які нехта пакінуў на рэгіянальным сайце на адрас чыноўніка. Аднак потым справа ня рухалася і Сяргей Пятрухін кажа, што ўжо і ня думаў, што яна адновіцца ў часе яго выбарчай кампаніі.

http://www.svaboda.org/a/27840313.html

## У Івацэвічах прайшоў першы пікет па зборы подпісаў

Дэмакратычныя прэтэндэнты ў кандыдаты ў парламент пачалі працу па зборы подпісаў.

Адзін з іх Валянцін Лазарэнкаў, які правёў свой першы пікет у Івацэвічах з сябрам сваёй ініцыятыўнай групы Таццянай Тарасевіч. Пікет доўжыўся амаль гадзіну, падчас яго правядзення было сабрана




каля дзясятка подпісаў. Большасць людзей абыякава праходзіла каля пікетоўшчыкаў.

Тым не менш палітык лічыць, што працаваць з людзьмі трэба, іншага шляху, на яго думку, па-просту няма:

– Працягваю рабіць тое ж самае – размаўляць з людзьмі, выказваць, што мы супраць апошніх законаў. Але для таго, каб нешта рабіць, то трэба сабраць тысячу подпісаў, каб мяне зарэгістравалі. Як толькі зарэгіструюць, я гатовы вырашаць вашы праблематыкі.

Тарасевіч Таццяна:

– Часцей за ўсё такое меркаванне: “А што хто зробіць, а ад мяне нічога не залежыць, а я ўвогуле нічога не хачу ведаць, яно будзе ўсё роўна, як будзе”.

Валянцін Лазарэнкаў ужо другі раз балатуецца на Івацэвіцкай акрузе № 11, да якой адносіцца частка Бярозаўскага раёна. Пакуль вядома, што яго супернікам будзе старшыня раённага выканаўчага камітэту Івацэвіцкага раёну.

http://www.racyja.com/palityka/u-ivatsevichakh-prajshou-pershy-piket-pa-zb/

## Прэвентыўныя захады супраць незалежнага кандыдата

Незалежны прэтэндэнт у кандыдаты ў дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў па 1-ай выбарчай акрузе, што ў Берасьці, Сяргей Пятрухін. Ужо другі дзень збірае подпісы ў цэнтры горада. Многія Берасьцейцы яго ведаюць, падуходзяць, здароўкаюцца,




падтрымліваюць, хто жыве ў першай выбарчай акрузе, падпісваюцца. Некаторыя запрашаюць да сябе ў рэгіёны, маўляў, навядзіце ў нас парадак! Многія пытаюцца: "А што там ў тсябе здарылась? Кажуць міліцыянты ноўтбук і тэлефон забралі?"

Сяргей Пятрухін добра вядомы ў Берасьці журналісцкімі сьледаствамі на тэму карупцыі чыноўнікаў і сілавікоў. На сваім youtube-канале «Народны рэпарцёр» ён выкладае відэасюжэты на праблемныя тэмы, а таксама зьвязаныя са злоўжываньнямі чыноўнікаў. Кожны ягоны фільме зьбірае тысячы праглядаў у сеціве.

Нядаўні фільм Сяргея Пятрухіна «Как заработать 50 базовых» распавядаў аб надзяленні гарвыканкамам зямлёй нейкага жабінкоўскага чыноўніка. Сюжэт зачапіў берасцейскае чынавенства, ў весну міліцыя цікавілась "Народным Рэпартэрам". Здавалася справе канец, але не, калі Сяргей Пятрухін зарэгіставаў ініцыятыўную групу, да яго прыйшлі...

"У мяне былі пару сюжэтаў пра Смаргонь..." - распавядае Пятрухін, і ў паццвярджэнне ягоных словаў па "пешаходнай" Савецкай міма пікета прэтэндэнта ў кандыдаты павольна праехала міліцэйская машына са Смаргоні, дзяўчына на заднім сядзенні здымала пікет Пятрухіна на камеру мабільнага тэлефона...

Дзіўны ланцуг супадзенняў толькі падцвярджае версію Сяргея Пятрухіна, што ўлады дапускаюць магчымасць ягонай перамогі на выбарах і робяць прэвентыўныя захады.

# Назіральніку забаранілі фатаграфаваць на падставе Канстытуцыі




У Баранавічах на чарговым 4-м пасяджэнні АВК № 5 па рэгістрацыі ініцыятыўных групаў былі зарэгістраваныя дзве групы:

-- Чарнавуса Мікалая, прыватнага прадпрымальніка, сябра партыі БНФ, ягоная ініцыятыўная група налічвае 10 чалавек.

-- Кармановіча Васіля, прыватнага прадпрымальніка з Брэста, сябры БСДП (Грамада), чыя ініцыятыўная група складаецца з 20 асоб.

На пасяджэнні прысутнічаў назіральнік Сяргей Гоўша, які сфатаграфаваў момант галасавання камісіі. Старшыні камісіі Таццяне Латышавай гэта не спадабалася і яна паставіла на галасаванне пытанне аб тым, ці дае камісія дазвол назіральніку Гоўшу фатаграфаваць. Васьмю галасамі супраць аднаго назіральніку забаранілі фатаграфаваць.

Сяргей Гоўша спытаў старшыню, на падставе ягога закону яна забараняе яму фатаграфаваць? Адказ старшыні: "НА ПАДСТАВЕ КАНСТЫТУЦЫІ Рэспублікі Беларусь!" Здзівіў назіральніка: "Заўтра падам у камісію ліст, каб мне паведамілі на падставе якога артыкула Канстытуцыі забаронена. Яе адказ сведчыць аб тым, што няма і не будзе адкрытасці і галоснасці на выбарах, бо ўлады сфармавалі камісіі са сваіх надзейных сябраў, з прыўладных і залежных ад улады арганізацый".

## Зменім “Закон аб масавых мерапрыемствах” разам?




Валантэрская служба “Вясны” запрашае 9 ліпеня на семінар і распрацоўку сумесных дзеянняў у абарону правоў на мірныя сходы і выказвання меркаванняў.

Ці ведаеце Вы, што ў Беларусі існуе закон, які рэгулюе ўсе працэсы, звязаныя з правядзеннем мірных сходаў. Маючы намер зладзіць нешта публічнае, кожны павінен здзейсніць пэўныя дзеянні: звярнуцца да мясцовых уладаў, міліцыі, у медыцынскую ўстанову і камунальныя службы. І часцей за ўсё, нават выканаўшы прапісаныя ў дакуменце патрабаванні, цяжка атрымаць дазвол на правядзенне публічнага мерапрыемства. А за мерапрыемства без дазволу людзі атрымліваюць вялікія штрафы...

Усё гэта супярэчыць міжнародным дакументам, якія гарантуюць кожнаму права на тое, каб мірна выходзіць, казаць і мець магчымасць быць пачутым. Мы лічым, што гэта трэба мяняць. Мы мяркуем, што сумеснымі намаганнямі мы прыйдзем да пазітыўных зменаў. Але нам вельмі патрэбная Вашая дапамога. Вашыя час, вера і, вядома, крэатыўныя ідэі.

Таму запрашаем Вас на сустрэчу, якая адбудзецца 9 ліпеня з 11:00 да 18:00 ў Мінску. Месца правядзення будзе паведамленае асобна пасля запаўнення анкеты.

Пра што будзе ісці гаворка?

На сустрэчы будзе паднятае пытанне імплементацыі міжнародных стандартаў у галіне мірных сходаў. Як ужо было сказана вышэй, беларускія ўлады не рэалізуюць міжнародныя абавязкі, якія яны ўзялі на сябе у галіне права на мірныя сходы. У сувязі з гэтым мы хочам распрацаваць як прававыя захады да зменаў у заканадаўстве, так і грамадскую кампанію з мэтай давесці, што гэты кепскі закон - справа кожнага...

Якія накірункі мы плануем абмяркоўваць і развіваць?

Юрыдычны (звароты да суб'ектаў заканадаўчай ініцыятывы);

Камунікацыйны (уключэнне як мага больш арганізацый грамадзянскай супольнасці ў вырашэнне гэтай праблемы);

Стварэнне грамадскай кампаніі (распаўсюд інфармацыі пра праблемныя моманты простай мовай, уключэнне людзей у адстойванне сваіх правоў).

Мы плануем не толькі дагрукацца да ўладаў, але і вынесці праблему на іншы ўзровень: дамагчыся, каб людзі, якія не сутыкаюцца з гэтай тэмай, ведалі пра яе. Мы лічым, што разам можам дасягнуць нашай мэты і салідарызаваць грамадства. Бо ўсе мы неабыякавыя, але камусьці проста трэба пра гэта даведацца.

http://spring96.org/be/news/83641

## Дзень Незалежнасці ў Бярозе

Праваабаронцы і грамадскія актывісты адзначылі Дзень Незалежнасці 27 ліпеня. Яны далучыліся да пікета Аляксандра Кабанава ў людным месцы ля крамы “Еўраопт”. Актывісты не выкарыстоўвалі ніякіх лозунгаў, але стаялі пад бел-чырвона-белымі сцягамі і размаўлялі з тымі людзьмі, якія цікавіліся пікетам і сцягамі.

“Дзень Незалежнасці, які мае для гэтага гістарычныя падставы, – гэта свята душы для тых, хто прыйшоў на пікет,” – кажа праваабаронца Сяржук Русецкі.

– Чарговае абвяшчэнне незалежнасці нашай краіны. Яно на больш высокім, дзяржаўным узроўні, калі БССР ператварылася ў незалежную краіну.

Андрэй Леановіч:

– Гэта Дзень Незалежнасці, які быў прыняты 27 ліпеня 1990 года.

Пракурат Міхаіл Мікалаевіч:

– Людзі прызнаюць 27 ліпеня. Нават далёкія ад палітыкі здзіўлены, чаму ў нас Дзень Незалежнасці адзначаецца 3 ліпеня.

Гадзінны пікет прайшоў без эксцэсаў. Але не абышлося без спробаў зняць на відэа і сачэння з боку спецслужбаў.

http://www.racyja.com/hramadstva/dzen-nezalezhnastsi-u-byaroze/

## Прэтэндэнт у дэпутаты лічыць, што газета “Кобрынскі Веснік” парушае выбарчае заканадаўства



Кобрынскі Веснік

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА www.vkobrine.by

Выдаецца з верасня 1939 года. •Субота, 23 ліпеня 2016 года •№ 59 (9772) •У розніцу цана 25 капеек (2500 рублёў).

**Собираем подписи**

*Предвыборная кампания в самом разгаре. 15 июля в центре Кобрина, возле кафе "Лакомка", прошёл первый пикет по выдвижению кандидата в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Василия Демидовича.*

Члены инициативной группы собирали подписи, а у электората была уникальная возможность пообщаться с самим кандидатом в депутаты. Многие из тех, кто желал отдать свой голос в пользу Василия Николаевича, огорчились, что не имели с собой паспорта. Без наличия данного документа, увы, сделать это было невозможно. А кто-то уже успел оставить свой автограф в соответствующей ведомости ранее, при встрече с другими членами инициативной группы.

**Наталья ЕФТИФЕЕВА.**

**НА СНИМКЕ автора: подпись в поддержку Василия Демидовича.**

**11 верасня 2016 года – выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь VI склікання**

**И ДИПЛОМ, И ПРЕМИЯ**

Выпускник 11 класса средней школы № 9 г. Кобрина Максим Давидюк, победитель республиканского конкурса работ исследовательского характера 2016 года, поощрён Премией специального фонда Президента Республики Беларусь по социальной поддержке одарённых учащихся и студентов. По итогам конкурса за исследовательскую работу «Психологизм войны в повести Б. Ва[illegible] и романе-исповеди С. Алексиевич «Цинковые мальчи[illegible] для русского языка и литературы Татьяны Ку[illegible] III степени Министерства образования Респ[illegible]

**Служба информации «КВ».**



Днямі чытачы газеты “Кобрынскі Веснік” пабачылі на першай старонцы №59 газеты за 2016г. артыкул з фотаздымкам за подпісам Наталлі Ефціфеевай аб тым, што 15 ліпеня ў цэнтры горада прайшоў пікет па сбору подпісаў за выдвіжэнне ў Палату прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь Васілья Дземідовіча (дзеючы дэпутат мясцовага савета).

Прэтэндэнт у кандыдаты ў дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь у АВК прадпрымальнік Алесь Мех таксама зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу па вылучэнню ў кандыдаты ў дэпутаты пад №1.

Алесь Мех кажа: “Мы рэгулярна выстаўлялі пікеты па сбору подпісаў кожную суботу і нядзелю каля галоўнага ўваходу на вялікі рынак і каля аўтобуснага прыпынку, што ля рэстарана “Кобрын”. Але

гэту падзею журналісты газеты не заўважылі”.

Алесь Мех палічыў гэты матэрыял у газеце “Кобрынскі Веснік” скрытай агітацыяй за канкрэтнага праўладнага кандыдата, і пісьмова звярнуўся ў рэдакцыю: “Калі вы даеце падобную інфармацыю, журналісты павінны быць аб’ектыўнымі і асвятляць аналагічныя падзеі, звязаныя з іншымі кандыдатамі”.

Прэтэндэнт у дэпутаты Алесь Мех таксама лічыць, што з артыкула таксама вынікае, што адзін і той жа чалавек можа паставіць подпіс толькі за аднаго чалавека, што з’яўляецца недакладнай інфармацыяй альбо дэзінфармацыяй”.

## “Праваабаронцы за свабодныя выбары” фіксуюць першыя парушэнні

Праваабарончы цэнтр “Вясна”, які займаецца назіраннем за выбарчым працэсам у рамках кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары”, ужо зафіксаваў факты парушэнняў выбарчага заканадаўства з боку ўлады. Назіраюцца перашкоды ў дзейнасці доўгатэрміновых назіральнікаў, выяўленыя факты правядзення закрытых паседжэнняў выбарчых камісіяў без запрашэння назіральнікаў, зноў выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс, -гаворыць юрыст праваабарончага цэнтру “Вясна” Валянцін Стэфановіч.

– Зараз ідзе збор подпісаў. Ідзе квола. Ёсць пэўныя паведамленні, што выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс. Мы пісалі пра гэта, напрыклад, пра выпадак у Крычыве. На нейкіх іншых прадпрыемствах людзей падпісваюць у пацоўны час пры ўдзеле адміністрацыі. Ёсць перашкоды ў зборы подпісаў у інтэрнатах – традыцыйна старая хвароба, камендант у нас галоўны чалавек у краіне, маўляў, не дазваляю, не пускаю.

У цэлым, як адзначае Валянцін Стэфановіч, кампанія праходзіць вельмі квола і застаецца малапрыкметнай для беларускага грамадства. Не апошнюю ролю ў гэтым грае і недастатковае асвятленне выбарчай кампаніі як у дзяржаўных, гэтак і ў незалежных сродках масавай інфармацыі.

http://www.racyja.com/palityka/pravaabarontsy-za-svabodnyya-vybary/

# Справа накіравана на новы разгляд, але судовыя выканаўцы ўжо спаганяюць штраф




Баранавіцкі сябра прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Аляксандр Швед атрымаў паведамленне ад судовага выканаўцы, у якім яму прапанавана добраахвотна аплаціць штраф у памеры 20 базавых велічынь. Калі ён гэтага не зробіць, адзначана ў паведамленні, будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Актывіст быў пакараны штрафам па абвінавачанні ва ўдзеле ў пікеце, які адбыўся ў Слоніме 31 сакавіка каля прахадной Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі. Пікет быў зладжаны актывістамі прафсаюза РЭП у падтрымку свайго калегі Міхаіла Сашко, з якім не працягнулі працоўны кантракт на прадпрыемстве. Аляксанд Швед раздаваў газеты “Салідарнасць”.

20 траўня актывіст быў пакараны судом г. Баранавічы і Баранавіцкага раёна, але 30 чэрвеня Брэсцкі абласны суд адмяніў дадзенае рашэнне суда і накіраваў справу на новы разгляд іншаму суддзі. Суддзя Баранавіцкага суда Вольга Раманава дапусціла памылку ў даце: дата правядзення пікета была ўказана 31-ым траўня. Новага паседжання суда ў Баранавіцкім судзе яшчэ не было, але гэта, як аказалася, не даведзена да ведама судовых выканаўцаў.

http://spring96.org/be/news/83895

# Берасцейскаму ваяводству ВКЛ спаўняецца 450 гадоў

Сёлета спаўняецца 450 гадоў з часу ўтварэння Берасцейскага ваяводства ў складзе ВКЛ якое пад уласным гербам „Пагоня" праіснавала да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.

„Нягледзячы на тое, што гэтая веха значная для гісторыі Берасцейшчыны, аднак прамоцыі яе ў грамадска-культурным жыцці рэгіёна назіраць пакуль не выпадае", – лічыць краязнаўца Ігар Бараноўскі:

– Фактычна асноўная частка яго сёння – гэта Берасцейская вобласць без паўночна-ўсходняга кутка. Пэўная такая наша заходне-палеская тоеснасць у гэтым ваяводстве рэалізавалася, магчыма яна ўжо тады адлюстравалася ў свядомасці тагачаснай шляхты. Берасцейская шляхта ў адрозненні ад валынскай і падляшскай шляхты захацела застацца ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У сваю чаргу на базе цэнтра „Грунтоўня" адбыўся круглы стол прымеркаваны да ўгодкаў утварэння Берасцейскага ваяводства, дзе абмеркавалі магчымасьці адзначэння юбілею:

– Новы статус тэрытарыяльнага цэнтра для горада вельмі станоўча паўплываў на развіццё культуры, на эканамічнае развіццё. Адзначаць гэтую дату мы будзем, плануем невялічкую інфармацыйна-асветніцкую кампанію. Зразумела, што летні фармат прадугледжвае забаву і адпачынак. Мы хочам правесці летнік на прыродзе на мяжы Берасцейскага ваяводства.

Нельга сказаць што ўзгадак пра гістарыяграфію Берасцейскага ваяводства з боку афіцыйных уладаў зусім няма. У лесвічным пралёце мясцовга аблвыканкама вісіць шыльда з імёнамі ваяводаў і датамі іх кіравання. У гарадской жа прасторы шырока адзначаюцца ў асноўным даты звязаныя з падзеямі Другой сусветнай вайны.

http://www.racyja.com/kultura/berastsejskamu-vayavodstvu-vkl-spaunya/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»